№ 79 (4024)

9 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Ідзе падпіска на "Народную Волю" на лістапад-снежань і першую палову 2016 года.**

ГОНАР БЕЛАРУСІ

# З Нобелеўскай прэміяй!

## Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч стала лаўрэатам самай прэстыжнай сусветнай прэміі.

### «За шматгалосае гучанне прозы і ўвекавечанне пакуты і мужнасці»

Учора сенсацыйную навіну паведаміла Шведская акадэмія, якая прысуджае Нобелеўскую прэмію. Фармулёўка, якую агучыла сакратар Сара Даніус, такая: «За шматгалосае гучанне прозы і ўвекавечанне пакуты і мужнасці».

Жанчыне ў галіне літаратуры Нобелеўская прэмія ўручаецца чатырнаццаты раз – і ўпершыню нашай суайчынніцы Святлане Аляксандраўне Алексіевіч.

Прызнацца, мы чакалі, верылі, спадзяваліся, што гэта здарыцца, – Алексіевіч ужо ў трэці раз намінавалася на гэтую прэмію. І ўсё роўна навіна аб прысуджэнні яе нашай Святлане грымнула, як урачысты салют. Уся Беларусь у гэты момант асвяцілася па-новаму.

Святлана Алексіевіч нарадзілася ў 1948 годзе ў сям'і настаўнікаў у горадзе Івана-Франкоўску (Украіна) і адразу ж з бацькамі пераехала на радзіму бацькі ў Беларусь. У 1972 годзе скончыла аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, працавала карэспандэнтам у рэспубліканскай «Сельской газете», з 1976 года – у часопісе «Нёман».

Першая кніга – «У вайны не жаночы твар» – раман-галасоў, як называла яго сама пісьменніца, выйшаў у 1985 годзе. Агульны тыраж кнігі дайшоў да 2 мільёнаў асобнікаў. Потым былі «Апошнія сведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва», «Час сэканд-хэнд». Кнігі пісьменніцы выдаваліся ў многіх краінах свету, у тым ліку ЗША, Германіі, Вялікабрытаніі, Японіі, Швецыі, Францыі, Кітаі, В'етнаме, Балгарыі, Індыі.

Святлана Алексіевіч мае мноства ўзнагарод. Сярод іх – прэмія Рэмарка (2001), Нацыянальная прэмія крытыкі (ЗША, 2006), прыз чытацкіх сімпатый па выніках чытацкага галасавання прэміі «Вялікая кніга» (2014) за кнігу «Час сэканд- хэнд», а таксама прэмія Курта Тухольскага «За мужнасць і годнасць у літаратуры», прэмія Андрэя Сіняўскага «За высакароднасць у літаратуры», расійская незалежная прэмія «Трыумф», Лейпцыгская кніжная прэмія «За ўклад у еўрапейскае ўзаемаразуменне», нямецкая прэмія «За лепшую палітычную кнігу» імя Гердэра. У 2013 годзе Святлана Алексіевіч стала лаўрэатам Міжнароднай прэміі міру нямецкіх кнігагандляроў.

Урачыстая цырымонія ўручэння ўзнагароды адбудзецца 10 снежня ў Стакгольме.



### Пяць выказванняў Святланы Алексіевіч:

«Колькі чалавека ў чалавеку? У ім і бездань, і неба. Як абараніць чалавечае ў чалавеку? Ад біялогіі, ад звярынай падсвядомасці...»

«Тое, што мы не цэнім наша жыццё, – не гераізм, гэта варварства».

«Проста разгул міфалогіі. Такое адчуванне, што праўда нікому не патрэбна».

«Кажуць, цяпер улада алігархаў, капіталу, але Расія краіна ірацыянальная, гэтак жа, як і Беларусь: грошы, па вялікім рахунку, не заўсёды ўсё вырашаюць».

«Грэбаванне жыццём – вельмі рускае паняцце».

«Навучыцца б шанаваць маленькае чалавечае жыццё!»

**P.S.** Рэдакцыя газеты "Народная Воля" далучаецца да віншаванняў, якія ў гэтыя дні ідуць Святлане Алексіевіч з усіх куткоў свету.

ЭКСКЛЮЗИВ

Светлана Алексиевич дала короткое интервью «Народной Воле»:

## «Надо спокойно делать свое дело...»

**– Светлана, что вы будете делать до 10 декабря?**

– А что это за дата?

**– Да вручение премии в Стокгольме!**

– Ах, да. Жить. Я буду жить.

**– Что вы сейчас чувствуете – извините за банальный вопрос?**

– Мне нравится видеть вашу реакцию – вы меня почти заставили плакать от счастья. В конце концов, пусть русские блогеры зловредничают: «Ты ж понимаешь, маленькая Беларусь». А вот мы, белорусы, получили-таки Нобеля!

**– На ленте.ру вас представили так: «Классик русской литературы».**

– Хорошо что не «лидер русского мира». А если серьезно... Я недавно была в Австрии, и из-за соседнего столика меня спрашивают: «Откуда вы?» Я ответила: «Из Беларуси!» «О! Лукашенко и Домрачева!» – воскликнули они. Я подумала: здорово, что у нас появилась Домрачева. Это наша гордость. Теперь у белорусов есть Нобелевская премия. Это тоже повод для гордости. Потому что премию получила не я одна, ее получили мои герои, мои родители, мои дед и прадед, который учился вместе с Якубом Коласом. В конце концов, премия – это результат общего гуманитарного накопления. Я не принимаю премию как личную награду.

**– Думаю, эта новость затмит сейчас выборы президента.**

– Ничего, 76 процентов будут все равно. Мы знаем, кто победит. Потому что народ испугался войны. Испугался того, что случилось в Украине, в Сирии. Наш народ, по-моему, до последнего не хочет брать оружие в руки. И я рада. Потому что я тоже не сторонник революции. Думаю, впереди еще долгий путь – свободны мы будем не скоро. Мы очень маленькие, мы зажаты со всех сторон, мы небогатая страна. И очень разрознены – каждый сидит у себя в домике и не хочет выходить.

**– А что может заставить выйти на улицу?**

– Как бы это выйти на улицу, но чтобы не стреляли?.. Не знаю ответа на этот вопрос.

**– Вы за это не любите белорусов?**

– Я люблю белорусов. Это же мои родители. Отец – белорус, бабушка, дедушка. Боже мой, я долго жила в деревне и очень любила и люблю деревню. Единственное, чего я не знаю: или это мудрость, которую проявляют белорусы, или это все-таки страх, который в нас сидит. Не знаю... Не хочется так думать, но молодые люди из университета говорят одно, а приезжают домой – и их родители не понимают, о чем говорят их дети. Так что сейчас у нас Беларуси две: старая, деревенская и Беларусь молодая. Я, к сожалению, близких перемен не жду. Поэтому надо спокойно делать свое дело, другого выхода у нас нет.

**Елена МОЛОЧКО.**

# Датэрміновае галасаванне: дзе пуста, а дзе густа...

## Рэкорда не будзе?

За першыя два дні датэрміновага галасавання на ўчасткі прыйшлі 10,94% выбаршчыкаў, адрапартаваў Цэнтрвыбаркам на сваім сайце.

Ніякай сенсацыі ў гэтым няма. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, падчас кожных выбараў каля трэці беларусаў, якія маюць права галасаваць, прыходзяць на ўчасткі ў дні датэрміновага галасавання. Так, у 2006 годзе колькасць тых, хто прагаласаваў загадзя, склала 31% ад агульнай колькасці ўключаных у спісы выбаршчыкаў, у мінулую прэзідэнцкую кампанію 2010 года – 23,1%.

Якія лічбы агучыць Л.Ярмошына сёлета? Будзе новы рэкорд ці не?..

Пазаўчора карэспандэнты "Народнай Волі" наведалі некалькі выбарчых участкаў і паназіралі за тым, як праходзіць у Беларусі датэрміновае галасаванне.

## За два дня – 840 человек

7 октября, 16.00. После обеденного перерыва открывается столичный участок №6. Здесь голосуют жильцы четырех студенческих общежитий Белгосуниверситета и нескольких жилых домов. Всего в списке избирателей – 1500 человек.

Помещение участка очень маленькое – где-то 3х4 метра: посередине две кабинки для голосования, по бокам – два стола членов комиссии, в левом углу – урна, запечатанная... обычным пластилином.

– Это пластилин?! – я не могу сдержать удивления.

– Ну да. А вы что думали, сургуч? Если мы будем каждый раз им заклеивать урну, она же вся этим сургучом облеплена будет, – невозмутимо говорит глава избирательного участка, который отказался представиться.

Голосование начинается, а у входа – уже очередь из 10 студентов.

– *Нас никто не заставлял, это наша инициатива. Голосовать – это интересно,* – неуверенно говорит первокурсница, которая тоже отказывается представиться.

Наблюдателей на участке нет. Ни одного. Вернее, в помещении общежития, где находится участок, они есть. Но в соседней комнате. Сидят на диванах.

Студенты в комнату для голосования идут целыми группами. Кто в чем: кто в куртке, а кто в домашних тапочках. С начала голосования прошло только 10 минут, а глава комиссии уже меня спрашивает:

– Ну что, сфотографировали? Теперь можете идти. Не мешайте.

С 16 до 19 на этом участке, по моим подсчетам, проголосовало около 170 избирателей.

В 19.00 участок закрывают. Урну запечатывают обычным листом А4 с подписями. Видно, что края намазаны сухим клеем, а по углам все тот же обычный пластилин. По подсчетам комиссии, 7 октября проголосовали 320 человек. В первый день досрочного голосования – на 200 больше. Выходит, что за два дня – 840 человек. Более половины избирательного списка...

**Ирина АНДЕЙЦИВ.**

Алевтина ГЛАДКАЯ:

## «В будние дни они все работают, а не ходят на выборы»

После обеда во второй день досрочного голосования на участке №24 в Минске, который расположен в СШ №188, проголосовало 20 человек. Председатель участковой комиссии **Алевтина Гладкая** рассказывает, что на досрочных выборах на большое количество избирателей не рассчитывают.

Нельзя не отметить: Алевтина Гладкая – та самая председатель участковой комиссии, которую в 2008 году на парламентских выборах подполковник милиции **Николай Козлов**, несший дежурство на участке, уличил в фальсификациях именно во время досрочного голосования. Об этом скандальном факте написала «Народная Воля». Замять историю не получилось, и Генеральная прокуратура поручила Министерству внутренних дел провести проверку по фактам, указанным в публикации.

Однако ГУВД Мингорисполкома отчиталось, что в "*ходе проверки обстоятельства, указанные в данной статье, не нашли своего объективного подтверждения*", а Алевтина Гладкая вновь возглавила избирательную комиссию на президентских выборах 2010 года. В эту избирательную кампанию, выходит, она снова оказалась востребованной. Как, впрочем, и еще один «фигурант» той скандальной истории – **Алексей Пятница**. Как и в 2008 году, он на нынешних выборах – заместитель председателя избирательной комиссии.

Что любопытно: на этом участке в числе независимых наблюдателей... Николай Козлов. Он зарегистрирован от Объединенной гражданской партии. *«По пальцам считаем каждого проголосовавшего*, – рассказывает Николай. – *Лично я членам комиссии расслабляться не даю. Из грубых замечаний могу отметить то, что на ночь двери помещения, где идет голосование, не опечатывают. Урну тоже не опечатывают, кладут лист бумаги на прорезь в урне, куда бросают бюллетени, и заклеивают их канцелярским скотчем»*.

Николай замечает, что показатели по проголосовавшим на их участке гораздо ниже тех, что ЦИК дает по стране.

Всего на этом участке зарегистрировано 1500 человек. И по данным комиссии, и по данным независимых наблюдателей за первые два дня пришли проголосовать 70 человек, что составляет 4,6% от количества зарегистрированных избирателей на участке №24.

На вопрос, что на участке не наблюдается массовости, Алевтина Гладкая замечает:

– Мы с большим позитивом настроены на основной день голосования. В будние дни все работают, а не ходят на выборы.

Стоит отметить, что досрочно голосовать приходили в основном пенсионеры. Кто-то говорил, что в выходные планирует поехать на дачу, кто-то – к родственникам. Один избиратель заявил, что решил досрочно проголосовать, не стоять в очереди в воскресенье.

**Виталий Андроник, Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## Чатырнаццаць жанчын – за тры гадзіны

*Карэспандэнт "Народнай Волі" паназіраў, як праходзіць датэрміновае галасаванне на Савецкім выбарчым участку №2 у г.Смалявічы.*

**7 кастрычніка, 16.00.** Участак знаходзіцца ў сярэдняй школе №2, пасля перапынку датэрміновае галасаванне працягваецца (з 16.00 да 19.00). На дзвярах – інфармацыя пра сябраў участковай камісіі, нумары іх тэлефонаў. Зрэшты, не паспеў я яшчэ і пазнаёміцца з апошнімі, як акурат у 16.00 – першая наведвальніца. Прозвішча мне сваё не называе, але распавядае, што працуе ў Мінску на Трактарным заводзе. Жыве ў Смалявічах, зусім побач са школай. Таму і вырашыла не адкладваць справу ў доўгую скрыню.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## «Выбарчы вечар», які не адключыш

**У Беларусі падыходзіць да канца прэзідэнцкая выбарчая кампанія. Хтосьці бачыць інтрыгу ў галасаванні 11 кастрычніка, нехта пераканаы, што ў краіне нічога не зменіцца. Аднак выбаршчыкі, апазіцыя, улады, журналісты рыхтуюцца, бо выбары прэзідэнта, якія б яны ні былі, ёсць падзея раз на пяць гадоў.**

На тэлеканале "Белсат", што транслюецца праз спадарожнік Astra4, 11 кастрычніка адразу пасля галасавання – адмысловы "выбарчы вечар". У выпадку паўтарэння блакіроўкі незалежных сайтаў, як у дзень выбараў у 2010 годзе, менавіта гэтая тэлевізійная перадача можа стаць адзінай альтэрнатыўнай крыніцай інфармацыі пра вынікі выбараў.

"Мы прапануем гледачам грунтоўную паслявыбарную праграму, бадай, не менш цікавую, чым самі выбары, якія ладзяць улады Беларусі, – кажа Аляксей Дзікавіцкі, кіраўнік рэдакцыі інфармацыйных праграм "Белсата". – На жаль, ніводны незалежны сацыялагічны цэнтр не атрымаў дазволу на правядзенне exit polls, але мы прапануем самыя гарачыя каментарыі ад топавых палітыкаў і экспертаў краіны".

Зрэшты, перадусім у дзень выбараў місія журналістаў – не стварыць шоу ў тэлеэфіры, а данесці грамадству праўду пра тое, што насамрэч рабілася напярэдадні і ў асноўны дзень галасавання.

"У цяперашнюю эпоху смартфонаў ды іншых мабільных тэхналогій кожны можа стаць журналістам і паведаміць пра важныя падзеі, сведкам якіх ён стаў. Мы заклікаем нашых гледачоў назіраць у гэты дзень за тым, як ідзе галасаванне, здымаць парушэнні і фальсіфікацыі, калі яны будуць мець месца, на свае тэлефоны і дасылаць "Белсату" відэа або фота на адрас info@belsat.eu. Мы пакажам вашы матэрыялы: дзякуючы вам Беларусь і свет змогуць даведацца праўду пра тое, як у нас прайшлі прэзідэнцкія выбары-20015", – кажа Аляксей Дзікавіцкі.

"Выбарчы вечар" на "Белсаце" пачнецца ў 21.00 – праз гадзіну пасля закрыцця выбарчых участкаў. Гледачы даведаюцца з дапамогай прамых уключэнняў пра тое, як прайшло галасаванне ў розных рэгіёнах Беларусі, пра першыя рэакцыі на лічбы праўладных экзіт-полаў, высновы кандыдатаў, назіральнікаў, палітыкаў і аналітыкаў, убачаць таксама апытанні выбаршчыкаў і рэпартажы з месцаў падзей.

"Нягледзячы на тое, якія мы маем асабістыя меркаванні, гэта галоўная падзея ў беларускім грамадска-палітычным жыцці, прынамсі 2015 года. Гэта важны час і для інфармацыйных тэлеканалаў. Таму мы сур'ёзна рыхтуемся і гатовы працаваць у студыі так доўга, як гэтага запатрабуе развіццё падзей", – кажа Аляксей Дзікавіцкі, анансуючы шмат цікавых гасцей у студыі, а таксама на відэасувязі.

"У выпадку адключэння самых папулярных беларускіх незалежных сайтаў "Белсат" можа стаць разам з радыёстанцыямі, што гучаць з замежжа, і сацыяльнымі сеткамі важнай альтэрнатыўнай крыніцай інфармацыі, як гэта было на выбарах прэзідэнта ў 2010 годзе. Спадарожнік жа не адключыш!" – адзначае Дзікавіцкі.

Вядучымі "выбарчага вечара" стануць вядомыя асобы канала – Валер Руселік і Вольга Саўле. "Мы гатовы да выканання місіі дзяжурных па краіне", – кажуць белсатаўцы.

**Ігар ЦЯПЛІНСКІ.**

ВЕЧЕ

Две темы, которые в эти дни широко обсуждаются общественностью страны, – это выборы и размещение российской авиабазы с истребителями под Бобруйском.

И о первом, и о втором говорил на встрече со строителями второго Минского кольца А.Г.Лукашенко. Вот его слова о том, что касается проблемы, которая исходит от «кремлевских мечтателей» и которая не может не волновать миллионы белорусов.

ДОСЛОВНО

## Александр ЛУКАШЕНКО:

# “НАМ НУЖНЫ САМОЛЕТЫ, А НЕ БАЗА…”

– Я наблюдаю в последнее время вопли нашей оппозиции по поводу размещения российской авиабазы на территории Беларуси. Мне докладывают об этом, я слушаю, смотрю и думаю: Господи, я ничего об этом не знаю! Человек, который должен принимать это решение, – я об этом ничего не знаю.

Нам не надо база сегодня! Тем более военно-воздушные силы. Нам надо определенное вооружение, о чем я публично тоже говорил, вы знаете, и Путину, и раньше Медведеву.

Во-первых, мы в союзе с Российской Федерацией. У нас есть ответственность: у России и у Беларуси. Мы заключили соглашение – они отвечают вместе с нами за западное направление. Фактически мы не в одиночку против НАТО здесь стоим, вместе с Российской Федерацией.

Два года назад я попросил президента России: «Дайте нам самолетов двадцать штук, чтобы мы обеспечили оборону». У нас же совместная сейчас противовоздушная оборона – Россия и Беларусь. «Нет, не можем произвести и прочее...».

Я пригласил руководителей нашего завода (у нас прекрасный завод в Барановичах по ремонту и модернизации самолетов) и поставил задачу в этом году 10 самолетов ввести в строй. В ноябре отдадут десятый самолет. Прекрасные самолеты, модернизированные истребители, которые работали «воздух–воздух», а сегодня работают и по земле. В следующем году еще 10 поставим на вооружение. То, что я просил у президента России. Ну, нет денег, не дали – хорошо, будем сами выкручиваться.

Нам нужны самолеты, а не база сегодня. У нас прекрасные летчики, у нас школа летчиков военных, гражданских хорошая. И зачем мне создавать базу? Может, здесь и надо и мы можем создать – эта база не проблема, у нас хватает свободных аэродромов, в том числе и военных. Но зачем мне сегодня завозить сюда самолеты и летчиков других государств? А свои что будут делать? Нам нужны вооружения для того, чтобы быть более обеспеченными в плане защиты рубежей Беларуси и России.

И не надо бунтовать и травить людей! У меня на сей счет ни с кем не было разговора. Просто меня удивляет и даже в какой-то степени возмущает и обижает: зачем это было россиянам сегодня вбрасывать в средства массовой информации? Может, беспокоятся, что мы действительно на Запад уходим, чтобы подкинуть эту тему, чтобы Запад начал у нас спрашивать или сомневаться в том, что мы с ними хотим нормализации отношений. Надо будет нам база, не дай Бог конфликт, – у нас хватает аэропортов, мы посадим хоть две сотни российских самолетов здесь и будем вместе защищать это направление.

*(Распечатка аудиозаписи без каких-либо корректировок и сокращений.)*

КОММЕНТАРИЙ

# Долгое молчание – золото или?..

**Эх, произнес бы эти слова Александр Лукашенко пару лет назад (или хотя бы пару месяцев), и не пришлось бы ему «наблюдать в последнее время вопли нашей оппозиции по поводу размещения российской авиабазы на территории Беларуси». Ведь проблема очень серьезная, можно сказать, определяющая будущее нашей страны, и вытекает она не только из слухов.**

**23 апреля 2013 года БЕЛТА (главное государственное информационное агентство) распространило информацию: «Россия планирует к 2015 году разместить в Беларуси авиаполк с истребителями. Об этом заявил сегодня министр обороны России Сергей Шойгу на встрече с президентом Беларуси Александром Лукашенко...» И далее идет расшифровка посыла: «Мы приступаем к рассмотрению плана по созданию здесь (имеется в виду в Беларуси. – Ред.) российской авиационной базы с самолетами-истребителями. Надеемся, что в 2015 году здесь уже появится авиационный полк», – сказал министр».**

**В тот же день, 23 апреля 2013 года, Москва разразилась своим сообщением: «Через два года Россия создаст в Белоруссии (так в Белокаменной называют нашу страну. – Ред.) свою авиабазу, заявил министр обороны Сергей Шойгу. Она станет уже третьим российским военным объектом в Белоруссии...»**

**Шло время, и из Москвы поступала дополнительная информация. В октябре 2014 года главком ВВС РФ Виктор Бондарев уточнил сроки размещения российской авиабазы под Бобруйском: «Авиабаза ВВС России в Беларуси будет создана в 2016 году. Там будут базироваться истребители СУ-27».**

**А 19 сентября нынешнего года, как вы, уважаемые читатели, знаете, президент России Владимир Путин распорядился подписать Соглашение о создании российской авиабазы в Беларуси. Соответствующий документ появился на официальном интернет-портале правовой информации (ксерокопия его была опубликована в «Народной Воле». – Ред.).**

**«Принять предложение правительства Российской Федерации о подписании Соглашения между Российской Федерацией и Республикой Беларусь о российской авиационной базе на территории Республики Беларусь», – говорится в распоряжении.**

**Как видим, не на пустом месте у многих сознательных белорусов возникли протестные настроения, выразившиеся в публичных акциях на площади Свободы. И действительно, как это так: президент России подписывает распоряжение о заключении Соглашения о размещении их авиабазы на территории нашей страны, а президент Беларуси ничего об этом не знает? Может, господин Путин уже даже не считает нужным спрашивать согласия у А.Лукашенко?**

**Или Александр Григорьевич, выступая на днях перед строителями, прокладывающими вторую кольцевую дорогу вокруг Минска, сказал не всю правду? Раз в его присутствии министр обороны России заявил о намерении разместить авиабазу под нашим Бобруйском, то не мог он, простите за грубое выражение, пропустить мимо ушей это сообщение. Тем более что спустя несколько часов оно было растиражировано государственным информационным агентством.**

**А можно ли поверить в то, что никто из подчиненных не доложил А.Лукашенко о документе, подписанном В.Путиным 19 сентября?**

**Встречаясь со строителями второй кольцевой дороги, Александр Григорьевич не мог обойти тему размещения российской авиабазы на территории Беларуси. Во-первых, потому, что с каждым днем растут протестные настроения людей. А во-вторых, на носу основной день голосования на выборах президента страны. Общество взбудоражено возможной российской агрессией и хочет перед тем, как зайти в кабинку для волеизъявления, получить четкий ответ на вопрос: так будет под Бобруйском размещена российская авиабаза с истребителями, несущими ядерные боеголовки или нет?**

**Предполагаем, большинство белорусов поверили Александру Григорьевичу: «Нам нужны самолеты, а не база...». Но вот пройдут выборы, что будет на самом деле? Откажется ли В.Путин от распоряжения, подписанного 19 сентября? А если не откажется? Что тогда скажет А.Лукашенко?**

**И вообще, долгое молчание Александра Григорьевича по наисерьезнейшей проблеме – это золото или?..**

**Иван ПЕТРОВСКИЙ.**

РАССЛЕДАВАННЕ



# “Яе загадалі зняць з вітрыны”

У рэдакцыю звярнулася сталая чытачка “Народнай Волі”, жыхарка мікрараёна “Серабранка”. Сваё любімае выданне яна набывае на пошце. Але апошні нумар там не знайшла. Нібыта паштаркі паведамілі ёй па сакрэце пра распараджэнне начальства: схаваць “Народную Волю” перад выбарамі. Ці праўда гэта? Рэдакцыя правяла ўласнае расследаванне.

Пошукі “Народнай Волі” пачынаем з паштовага аддзялення №30 (вуліца Кірава, 33), размешчанага зусім побач з Адміністрацыяй прэзідэнта. За шклом ляжаць “Звязда”, “Рэспубліка”, “СБ. Беларусь сегодня” і “Знамя юности”. Дарэчы, гэты “джэнтльменскі набор” знаходзіўся на бачным месцы ва ўсіх паштовых аддзяленнях, куды давялося трапіць (часам да яго дадавалася “Народная газета”). Крыху далей на століку “Комсомольская правда”, “Антенна”, “Аргументы и факты”, газета сканвордаў і – вось яна, дэмакратыя! – “Наша Ніва” і “Белгазета”. Але “Народнай Волі” няма. Раблю выгляд, што не заўважаю гэтага і прашу менавіта яе. Прадаўшчыца робіць здзіўлены твар, на хвіліну адыходзіць да сваіх калег, вяртаецца і аб’яўляе: “Была, але разабралі”.

Спускаюся ўніз па вуліцы Энгельса, сядаю на трамвай і накіроўваюся да плошчы Змітрака Бядулі. У паштовым аддзяленні №34 (вуліца Казлова, 6) выбар зусім малы: традыцыйны набор дзяржаўных выданняў, а таксама “Антенна”. Запытваю пра “Народную Волю”. *“Цяпер яе ў продажы няма,* – прызнаецца супрацоўніца. Але хуценька ўдакладняе: “*Разабралі ўжо. Прыходзьце за наступным нумарам”.*

Далей мой шлях – да галоўнага праспекта. Аддзяленне №5 размешчана недалёка ад метро “Плошча Якуба Коласа” (праспект Незалежнасці, 46). Асартымент багаты: дзяржаўныя выданні, “Комсомолка”, “АиФ”, шмат сканвордаў і крыжаванак. “Народная Воля”? Супрацоўніца пошты звыкла цягнецца да стэнда і здзіўляецца (адчуваецца, што шчыра): “*Куды гэта яна знікла?”* Неўзабаве яна досыць гучна звяртаецца да калег: *“Дзяўчаты, дзе “Народная Воля”? Тут яе чалавек хоча набыць”.* На што адна з супрацоўніц раўнадушна паведамляе: *“Яе загадалі зняць з вітрыны”. “Хто?”* – адразу запытваю я . *“Было такое распараджэнне,* – абстрактна адказвае жанчына і тут жа працягвае (магчыма, каб прадухіліць наступныя пытанні): – “*Але мы яе ўсё роўна прадаём. Зараз пашукаем”.* Але – дзіўнае супадзенне – усе пяць асобнікаў, якія атрымліваюць на гэтай пошце, аказаліся прададзеныя. Мне раюць прыходзіць у пятніцу, калі выходзіць наступны нумар.

Сядаю на метро і даязджаю да чыгуначнага вакзала. У яго памяшканні таксама ёсць пошта (аддзяленне №11). Але знайсці яго атрымалася толькі з дапамогай супрацоўнікаў міліцыі. Яны падказалі, што трэба стаць тварам да цэнтральнага ўвахода. Там, дзе справа знаходзяцца касы, маецца вінтавая лесвіца, якая вядзе на пошту. Тут асартымент газет цалкам супадае з іншымі аддзяленнямі. “Народнай Волі” не бачна. Прашу асобнік. Дзяўчына адыходзіць і неўзабаве вяртаецца са свежым нумарам. Набываю яго і запытваю, чаму газета не ляжыць разам з астатнімі СМІ. “*Не хапае месца”.*

Зусім недалёка ад вакзала знаходзіцца Галоўны паштамт (аддзяленне №50). Заходжу ў цэнтральную залу і падыходжу да першага акенца. За шклом толькі дзяржаўная прэса. “Народная Воля”? *“Дык гэта ж апазіцыйнае выданне,* – адказвае мне супрацоўніца. – *Звярніцеся ў кіёск ля ўвахода”*. І сапраўды, там сярод іншых выданняў знаходзіцца месца і для “НВ”. Але ж гэта не пошта, а газетны кіёск.

Пяць паштовых аддзяленняў, якія знаходзяцца ў цэнтры, праверaны. Для раўнавагі вырашаю завітаць у яшчэ пяць. Але гэтым разам у двух мікрараёнах. Спачатку па другой лініі метро еду да “Пушкінскай”. Аддзяленне №92 (праспект Пушкіна, 28) знаходзіцца ў адным прыпынку ад метро. “Народная Воля” – на стэндзе разам з іншымі выданнямі. Накіроўваюся ўглыб мікрараёна – на вуліцу Берута (аддзяленне №74). Як і на вакзале, нумар “НВ” знаходзяць далей ад людскіх вачэй. Яму таксама “не хапіла месца”.

Працягваю эксперымент у Паўднёвым Захадзе. Аддзяленне №116 на праспекце газеты “Праўда” (побач са станцыяй метро “Пятроўшчына”). “Народная Воля” – адзінае з недзяржаўных выданняў, якое там прадаецца. Але сімпатычная дзяўчына прапануе мне толькі нумар за 2 кастрычніка. *“Апошні нумар раскупілі,* – шчыра кажа яна. – *газета вельмі папулярная”*. Але амаль той жа самы адказ я чую на добрай адлегласці – у аддзяленні №25 (вуліца Сяргея Ясеніна, 10, побач з метро “Пятроўшчына”). Там мне таксама прапануюць нумар за 2 кастрычніка. Эксперымент заканчваю ўдалечыні ад метро (аддзяленне №41 на вуліцы Рафіева, 44). Там мяне чакае свежы нумар газеты.

Зразумела, дзесяць паштовых аддзяленняў – занадта малая выбарка, каб рабіць адназначныя высновы. Але пэўная тэндэнцыя прагледжваецца. Свежы нумар “Народнай Волі” я змог набыць толькі ў чатырох паштовых аддзяленнях з дзесяці. Толькі ў двух з іх асобнік знаходзіўся навідавоку. Прычым у адным аддзяленні выпадкова пацвердзілі: вусны загад схаваць газету з людскіх вачэй існуе. Толькі, магчыма, не ўсе спяшаюцца яго выконваць.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

ТРАГЕДИЯ

# На вечные муки

## Почти каждому самоубийству можно найти объяснение. Но – оправдание?..

Утро понедельника. Фойе лицея Белорусского государственного университета. Широкие двери здания всегда распахнуты перед учащимися. Утро – это ведь радость, потому что новая жизнь. Но почему-то нет музыки, нет обычного приветствия-ликования: «Добрай раніцы!», несущегося из динамиков. Напротив, такая тишина, что пахнет бедой еще со ступенек. Подталкивая и обгоняя друг друга, бегут на занятия лицеисты – а в 15–16 лет чинно не ходят, энергия бьет ключом – и останавливаются у входа, как вкопанные: их встречает фото одноклассницы, взятое в черную рамку. Как?! Ведь в пятницу все вместе праздновали День учителя, фотографировались под знаменитой ивой! И Дарья была рядом со всеми. И шепотом несется по рядам непостижимая весть: добровольно... из жизни... ушла в пустоту...



Самоубийства – вторая по распространенности причина смерти в возрастной группе от 15 до 25 лет (первая причина – дорожные аварии). По данным специалистов ВОЗ, на каждую успешную попытку самоубийства приходится около 20 провалившихся. Эпидемия подражания? Причем девочки чаще пытаются покончить с собой, но мальчики, как правило, действуют успешнее.

Это – теория. Ее читаешь, анализируешь, внутренне протестуешь, хватаешься за голову. А когда сталкиваешься с суицидом подростка в реальности, как вот сейчас, когда начинаешь только на ощупь приближаться к этой теме, то осязаешь физически, как кристаллизуется, как замораживается почва под ногами и звенит пространство: «Не тронь!» Люди говорят с тобой неохотно, вполголоса, стараясь не смотреть в глаза, как будто ты допускаешь бестактность – срываешь покрывала с тайны. С темной тайны. Смерть непостижима. А смерть человека, добровольно шагнувшего в бездну, для нас, живых, непостижима вдвойне, втройне. Конечно, почти каждому самоубийству можно найти объяснение. Но – оправдание?..

Про самоубийство 10-классницы из лицея БГУ уже сообщали некоторые издания. Происшествие стало резонансным. Естественно, идет следствие. Официальные лица: педагоги, школьные психологи – комментариев не дают, не имеют права. Как выразился директор лицея **Макар Александрович Шнип**, по этическим и общегуманистическим причинам. Конечно, трепать имя бедного ребенка будет неправильно ни сейчас, ни позже, когда следствие закончится, – это попросту оскорбительно по отношению к ее родным. К слову, в педагогике некоторых стран эта тема вообще под запретом, ее замалчивают, как знания про некрасивую инфекцию. Но вот мнение с другой стороны: социальный остракизм усугубляет проблему подросткового суицида. Говорить об этой опасности вслух – необходимо. Надо предупреждать тех же подростков и их родителей о такой болезни (а тяга к самоубийству – результат нервного расстройства). Дело в том, что романтическая психика старшеклассников перегружена эмоциями и очень уязвима. Порой именно рутину жизни они воспринимают как глобальную катастрофу. Им не по плечу как раз не геройство, а обыденность, именно она воспринимается ими как непоправимое несчастье. Они не могут справиться с нахлынувшим душевным унынием. И рвут с жизнью золотые нити.

15-летняя девочка шагнула в пустоту – выбросилась с балкона 12-го этажа. Красивый, юный, по внешним признакам успешный человек. Дарья оставила предсмертную записку, трогательное, умное сочинение, отличный стиль и слог:

*«Людзі, бывае, паміраюць/гінуць/забіваюцца. Мне проста цяжка жыць у гэтай сістэме сябе. Я ведаю, што яна парушыцца. Не сёння, дык заўтра, праз тыдзень, месяц, тысячагоддзе. Калі Вы не ўпэўнены, што можаце даць дзіцёнку адэкватныя ўмовы жыцця, то зрабіце аборт. Я радая, што сыходжу зараз. Я не настолькі старая. Старая, канечне. Але ж мне не 80, што вельмі добра. Я шмат чаго не паспела, але хіба можна ў жыцці усё паспець? Недасказанасць – яго сутнасць. Смерць – вельмі важная рэч. Я не хачу прыдумляць або разумець прычыну. Я нешчаслівая. Гэтага мне дастаткова. Вы не зможаце любіць мяне вечна, родныя мае людзі. Так што я буду шукаць шчасце ў імгненні. Я палячу скрозь усю вашую любоў. Бо адзіная абсалютная ўзаемнасць у мяне у саманянавісці.*

*Я прашу вас любіць адно аднаго і не хаваць гэтай любові. Не давайце людзям гінуць. І, хай банальна, але жывіце цяпер у два разы болей. Кожны, жыві маё жыццё!*

*Я люблю. Я кахаю. Я ненавіджу. Мне гэтага хопіць.*

*Калі гэта магчыма, я буду прыходзіць да вас у снах, бо столькі хочацца сказаць. Бывайце.*

*Прабачце, калі ласка».*

Я показала письмо психологу. Дарья выложила его на своей стене «ВКонтакте» за несколько минут до прыжка в пустоту, и теперь многие обсуждают: как его расшифровать? Есть здесь второй, третий смысл? Специалист покачал головой: все довольно типично... Хрупкая психика... Несчастье возведено в абсолют... Синдром Вертера.

Но когда молодого человека успело затянуть в стылую трубу отчаяния? Были причины? Дарья жила в столице, почти в центре города. Материальное положение? Подростки вообще очень болезненно могут реагировать на финансовый недостаток родителей, но материально девочка не бедствовала, хотя семья и не была полной, папа Дарьи жил отдельно. Дочка часто оставалась на попечении бабушки и дедушки. А мама – уважаемый человек, врач-онколог, много работала. Зато у девочки была возможность отдыхать летом за границей. И вообще, среда, в которой училась и общалась Дарья до лицея – гимназии №2, – здоровая, конкурентная, из этой минской гимназии в лицей БГУ в этом году поступили аж 4 человека.

Дарья прошла на филологию, выдержав огромный конкурс, – именно на этот факультет было 11 человек на место при общем конкурсе в лицее 7 человек. Конечно, она пережила колоссальное напряжение. Лицей БГУ – очень престижное среднее учебное заведение, со всей страны сюда приезжают учиться личности – ребята с высоким уровнем интеллекта, высокомотивированные. Здесь все – лучшие. Но Дашу, рассказывают, учителя все равно выделяли: кафедра белорусского языка сразу сделала на девочку «ставку» – что ученица будет побеждать на олимпиадах, участвовать в конференциях.

Впрочем, прошел только месяц учебного года, все настоящие успехи были впереди. Ребята даже мало познакомились друг с другом. Когда я осторожно расспрашивала о случившемся учащихся лицея, некоторые признавались, что не помнят Дашу в лицо – десятых классов в лицее 12. Огромный поток. И вдруг – самоубийство. Где-где, а в этих стенах предвидеть такое было сложно.

– Наш лицей погубить никого не может. Лицей может только вылечить! – говорили мне ребята с запалом.

Да и кто спорит: лицей БГУ – интеллектуальный оазис молодого поколения Беларуси, «приют трудов и вдохновенья».

Но из личных разговоров я уловила, что сочувствие и жалость у многих боролись с откровенным протестом. Живые и здоровые дети суицид понять не в состоянии. Кто-то даже обронил: «Вот, решила все свои проблемы одним махом... Но создала проблемы всем другим...» Ребята говорили это с какой-то мукой на лице. Потому что это был голос самой жизни против смерти.

Уроков в тот страшный понедельник никто не отменял – дисциплина в учреждении строжайшая. Но понятно, что все перемены у ребят прошли в попытках доскрестись до первопричины поступка Дарьи, до его ускользающего страшного смысла. А есть ли смысл в самоубийстве?! Вспомнили, что девочка часто плакала. Казалось, не из-за чего. Ее вызывают к доске и вдруг – слезы... Так было несколько раз. Школьные психологи, которые в общем-то здесь и так постоянно начеку, раздают всем учащимся свои анкеты по два раза в месяц, пригласили десятиклассницу на собеседование.

Постепенно всплыли сведения, что Дарью уже однажды остановили у страшной черты... Но в ту роковую субботу настроение у нее вроде бы было ровное, днем она гуляла с подругой: говорили об обычных делах и попрощались как обычно. Чего не смогла перенести эта трогательная душа? Ежедневной заурядности отношений? *«Вы не зможаце любіць мяне вечна, родныя мае людзі»*, – написала она в предсмертной записке. Что ж, проницательное наблюдение: время, оно какую хочешь радость погасит, оно какие угодно достижения снивелирует, поглотит. В том числе трансформируется и любовь. Но разве это беда? Да и разве вынес бы человек градус вечного высокого напряжения? Не вынес, мы не боги. Мы принимаем это как данность, а смирение – большая добродетель. Но в 15 лет ординарность отношений воспринимается, наверное, как круговое поражение. И Дарья не справилась с собой, вышла на балкон. Сняла и аккуратно поставила обувь, рядом положила мобильный телефон, какие-то личные вещи – до последнего мгновения она оставалась девочкой из хорошей семьи....

Куда попадет ее мятущаяся душа? Я не знаю ответа на этот вопрос. Но своих близких она отныне поселила в ад. И разве они заслужили эту вечную муку?

**Елена МОЛОЧКО.**

ЧУЛІ?

# Рэабілітавалі

Суд Еўрапейскага Саюза ў Люксембургу 6 кастрычніка адмяніў рашэнне Савета ЕС ад 2012 года, з-за якога былі замарожаны актывы беларускага алігарха **Юрыя Чыжа** і дзвюх яго кампаній – «Трайпл» і «Дынама Мінск».

Як паведамляе інтэрнэт-выданне **euobserver**, Савет Еўропы «не прадставіў ніякіх доказаў», што Чыж фінансаваў аўтарытарны рэжым Беларусі ў абмен на прывілеі ў бізнесе, і таму суд палічыў, што бізнесмена ўключылі ў чорны спіс неапраўдана.

Як вядома, летась з чорнага спісу Еўрасаюза былі выключаны яшчэ два набліжаныя да ***Аляксандра Лукашэнкі*** бізнесмены – **Уладзімір Пефціеў** і **Уладзімір Тарнаўскі**.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Следства працягнута да 30 лістапада

11 жніўня ў Мінску былі затрыманы пяцёра “графіцістаў” – **Максім Пякарскі, Вадзім Жаромскі, Вячаслаў Касінераў і Яраслаў Ульяненкаў.** Супраць іх распачаты крымінальныя справы за беларускамоўныя графіці «Беларусь мае быць беларускай» і «Рэвалюцыя свядомасці, яна ўжо ідзе...», а таксама за запэцкванне фарбай сацыяльнага білборда з выявамі супрацоўнікаў міліцыі. Двое хлопцаў – Пякарскі і Жаромскі – былі змешчаны ў СІЗА МУС. Графіцістаў абвінавацілі ў злосным хуліганстве і пашкоджанні чужой маёмасці, а гэта значыць, што ім пагражае да 6 гадоў турмы. 31 жніўня затрыманыя былі вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе і падпіску аб невыдаванні інфармацыі аб справе.

Праваабаронцы заяўлялі, што ў Беларусі могуць з’явіцца новыя палітвязні. Сілавікі ў сваю чаргу сцвярджалі, што ў канфіскаваных камп’ютарах графіцістаў знайшлі экстрэмісцкія матэрыялы, якія тыя распаўсюджвалі ў інтэрнэце. Справу на больш мяккі артыкул следчыя не перакваліфікавалі.

Днямі ўсім пяцярым паведамілі са Следчага камітэта, што тэрмін папярэдняга следства працягнуты да 30 лістапада.

Народная Воля http://www.nv-online.info 9 КАСТРЫЧНІКА 2015 г.

НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ



Семен БУКЧИН

# Открытка от президента

Я никогда не получал писем от президента Лукашенко. И вот не далее как вчера достаю из ящика открытку. Сначала подумал, что это рекламный мусор и хотел по привычке выбросить. Но на глянцевой поверхности были красивые фотографии, а посередке слова: «За будучыню незалежнай Беларусі!" Естественно, не смог я выбросить открытку с такими словами, а потому прочитал текст на обороте:

"Вместе мы создали независимую Беларусь!

Вместе мы преодолеем любые невзгоды!

Вместе мы построим счастливую и процветающую страну!"

Подпись, признаюсь, я не сразу разобрал. Первый инициал был обозначен как "ал", а дальше вроде шла "Л". Ну и показалось, что это казачий атаман Улахович накануне выборов призывает меня быть с ним вместе. Но сомнение было недолгим. Да это же, конечно, подпись Александра Лукашенко. Только вот непонятно: почему он имя свое пишет со строчной буквы, а не с заглавной? Может, в этом какой-то особый демократизм? Вот, мол, я настолько вместе с народом, что и имя свое пишу со строчной буквы...

Но, в конце концов, это ведь всего лишь только подпись. Мало ли кто и как подписывается? Важно, что над подписью. По поводу этого "над" я и призадумался.

Оказывается, мы вместе с Лукашенко создали независимую Беларусь. Лично я не помню, как это было, ну чтобы мы вместе... Насколько помнится, депутат Верховного Совета Лукашенко не очень ратовал за самостоятельность Беларуси. У него на этот счет была своя позиция.

Но вот выясняется, что мы вместе все-таки создали независимую Беларусь. И хочется спросить: независимую от чего и от кого?

Если независимую от по-настоящему достойных зарплат и пенсий, от справедливости в судах, от свободы слова и общественно-политической деятельности, от соблюдения законов, от белорусских национальных ценностей, включая прежде всего язык, от борьбы с всесильной и торжествующей бюрократией и коррупцией, от невозможности отказаться от диктата страны-соседки тогда ДА, тогда мы действительно независимая страна.

Но такую страну мы построили не вместе. Это вы, господин президент, ее построили, с опорой на известные силы.

Есть у меня сомнения и по поводу совместного преодоления "любых невзгод". Уже много лет я вижу – да и не только я, что "любые невзгоды" успешно преодолевают разные толпящиеся вокруг вас типы, обитатели Дроздов, преданные вам до умопомрачения чиновники и охранительные силы. Эти действительно могут петь "нам нет преград ни в море, ни на суше". Остальные ваши подданные, по крайней мере очень многие из них, сидят по уши в самых разных невзгодах и выхода из своей нищеты не видят.

Конечно, это замечательно верить, что "вместе мы построим счастливую и процветающую страну". С такой верой легче жить. Вот и Хрущев обещал, что "нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме". Молодые и не знают, что в СССР к 1980-м годам должен был наступить коммунизм. А наступило-то совсем другое.

Нет, построить "счастливую и процветающую" все-таки можно попробовать. Но для этого в открытке нужно было конкретно указать: с 1 января 2016 года мы внедряем демократическую процедуру выборов на всех уровнях власти, мы проводим экономические реформы, мы вдвое уменьшаем бюрократический аппарат, отказываемся от идеологической "вертикали", поднимаем зарплату врачам и учителям, прекращаем преследования политических оппонентов власти, отдаем под суд тех, кто повинен в исчезновении Гончара, Захаренко, Красовского, Завадского и других... Много еще конкретики можно было бы указать. И вот это могло бы действительно вдохновлять. А пока нас по-прежнему зазывают избитыми словесами, звучавшими с трибуны давно забытых съездов КПСС.

А может, у нас все еще идет какой-то съезд КПСС и – увы – никак не кончится? И открытка мне пришла не от президента, а с этого самого съезда? Текст и картинки на ней – счастливый народ вокруг своего вождя – всё так похоже.




СОБЫТИЕ

# Беларусь вступает в век индивидуальной медицины...





На днях в РНПЦ онкологии и медицинской радиологии имени Н.Н.Александрова был открыт Республиканский центр позитронно-эмиссионной томографии. Мероприятие проходило при участии Александра Лукашенко.

Для онкологической службы страны открытие ПЭТ-центра – событие. Потому что это новая страница в развитии данной области медицины. Для пациентов – надежда. Как объясняют специалисты, оборудование центра позволяет проводить раннюю диагностику онкологических, неврологических и кардиологических заболеваний, назначать точную схему лечения, выбирая для каждого пациента лекарство, которое подходит ему лучше всего.

**На фото (*слева направо*): *директор РНПЦ онкологии и медицинской радиологии Олег СУКОНКО, президент Беларуси Александр ЛУКАШЕНКО, вице-премьер Наталья КАЧАНОВА и министр здравоохранения Василий ЖАРКО открывают ПЭТ-центр.***

***Клиника постоянно оснащается новейшим оборудованием...***

НУ И НУ!

# Таццяна Караткевіч ужо бачыць сябе ў новым статусе?

Кандыдат у прэзідэнты Таццяна Караткевіч сустрэлася з выбаршчыкамі ў Маладзечне і прызналася, што не выключае магчымасці прыняць прапанову Аляксандра Лукашэнкі аб высокай пасадзе, калі, зразумела, такая паступіць.

У тое, што Караткевіч можа перамагчы на гэтых выбарах Аляксандра Лукашэнку, не верацьь ні яна сама, ні сацыёлагі, ні выбаршчыкі. Дык у чым тады сэнс удзелу ў выбарах? Можа, у перспектыве заняць высокую пасаду?

Таццяна Караткевіч не выключыла магчымасці свайго ўдзелу ва ўладзе, калі не выйграе прэзідэнцкія выбары, але абраны прэзідэнт прапануе ёй высокую пасаду. Паводле слоў Караткевіч, такую прапанову яна будзе абмяркоўваць са сваёй камандай.

Таццяна Караткевіч заявіла, што гатова працаваць на любой пасадзе, на якой яна будзе вольная ў прыняцці рашэнняў і пазбаўлена ад адміністрацыйнага ціску. Але больш за ўсё яе задаволіў бы статус дэпутата парламента.

Нагадаем, што працоўная біяграфія Таццяны Караткевіч, мякка кажучы, не ўражвае. Вопыту работы на адказных пасадах яна не мае ўвогуле.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ

# «Прагаласуй датэрмінова і едзь да бацькоў...»

25 верасня было надрукавана інтэрв'ю з шэрагам прарэктараў па выхаваўчай рабоце вышэйшых навучальных устаноў Мінска, Брэста, Гродна і Магілёва. Усе яны ў адзін голас заявілі, што ніхто не будзе прымушаць студэнтаў ісці на датэрміновае галасаванне.

А што адбываецца на самай справе? Вось ліст, які "Народная Воля" атрымала літаральна ўчора па электроннай пошце:

*"Здравствуйте! Хочу сообщить, что в Институте предпринимательской деятельности студентов заставляют идти на выборы. С каждым несогласным лично беседует проректор по идеологической и учебно-воспитательной работе Борчук Алла Леонидовна. В ход идут угрозы о том, что лишат общежития, а тем иногородним, которые там не живут, угрожают проблемами на сессии, тонко намекая о своем влиянии на всех преподавателей. Естественно, большая часть студентов не спорит и все выполняет.*

*Напишите, пожалуйста, об этом, чтобы люди знали, как студентов лишают конституционного права самим решать, идти на выборы или нет. Спасибо".*

У Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце паабяцалі, што калі з аўторка па чацвер іншагароднія студэнты прагаласуюць датэрмінова, дык з пятніцы адменяць заняткі – адпусцяць дадому. А ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце на факультэце тэхналогіі і тэхнікі лясной прамысловасці студэнтам прапанавалі пісаць заявы на вызваленне ад заняткаў на суботу і панядзелак – маўляў, яны едуць дапамагаць бацькам. Адзін са студэнтаў выставіў узор у сацыяльных сетках:



Заявление

Прошу освободить меня от занятий 10.10.15 и 12.10.15 в связи с поездкой домой и помощи родителям

05.10.15

У Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце пайшлі сваім шляхам. Іншагароднім студэнтам далі магчымасць напісаць заяву і не з'яўляцца на занятках ні ў пятніцу, ні ў панядзелак (у суботу іх наогул няма). Вядома ж, пры адной умове: ад'язджаючы да бацькоў, ты павінен зайсці на выбарчы ўчастак і датэрмінова прагаласаваць.

Як бачым, паўсюдна паўтарылася ранейшая практыка: каб павысіць працэнт галасуючых датэрмінова, у вышэйшых навучальных установах ідуць на любыя хітрыкі, парушаючы не толькі вучэбны распарадак, але і правы тых жа студэнтаў.

Кажуць, на гэта дадзены дазвол зверху.

**Вольга КАРПІЕВІЧ.**

АФІЦЫЙНА

## Ала БАРЧУК: «Хіба гэта пагроза?»

*Пракаментаваць ліст мы папрасілі непасрэдна прарэктара па ідэалагічнай і вучэбна-выхаваўчай рабоце Інстытута прадпрымальніцкай дзейнасці Алу БАРЧУК.*

– Ніколі мы не пагражалі студэнтам інтэрнатам. І ведаеце чаму? Таму што нашы студэнты там не зарэгістраваны і, напэўна, будуць галасаваць па месцы жыхарства. І ніколі індывідуальна ні з кім не мела гутаркі. Я, наадварот, пыталася ў студэнтаў у аўдыторыях, якія ў іх пытанні да адміністрацыі, якія ёсць прэтэнзіі. Праўда, нагадвала, што ўзяць удзел у галасаванні – грамадзянскі абавязак кожнага чалавека. На выбары патрачаны вялікія бюджэтныя грошы, таму трэба абавязкова ўзяць удзел у гэтай важнай грамадска-палітычнай падзеі. Пры гэтым ні за кога ніколі не агітавала – у кожнага ёсць свая пазіцыя і права выбару. Не гнала на датэрміновае галасаванне. Проста казала студэнтам: "Асабіста я хачу жыць у спакойнай і свабоднай краіне. А вы – самі выбірайце". Хіба гэта пагроза? Вы прыйдзіце да мяне, разам ва ўсіх студэнтаў запытаемся, ці пагражала я ім. Я – дарослы і вопытны чалавек пенсіённага ўзросту, навошта мне лезці на ражон? Паўтаруся: ніхто нікому не пагражаў. А для ўсіх добрым ніколі не будзеш...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЭМА ДНЯ

# Дзіўная пазіцыя Лідзіі Ярмошынай

Дзіўную пазіцыю наконт датэрміновага галасавання заняла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына падчас інтэрв'ю штотыднёвіку "Аргументы і факты", агаварыўшыся, што кожны, канешне, вырашае сам, але...

**"– Што рабіць, калі начальнік настойліва просіць прагаласаваць датэрмінова?**

– Калі грамадзянін прынцыпова мае намер галасаваць у дзень выбараў і гатовы пагоршыць адносіны з начальствам, ён мае права адмовіцца ад датэрміновага галасавання. Я пагадзілася б на прапанову начальства. Я ўсё роўна буду галасаваць, таму не мае значэння, зраблю я гэта ў аўторак ці ў нядзелю".

# «Давайце лепш будзем дзяліцца рэцэптамі»

Выбарчыя ўчасткі №№53, 54 і 55 месцяцца побач у адным калідоры ў гімназіі №30 імя Акрэсціна, што на вуліцы Куйбышава.

Зазірнула на ўчастак №53. Старшыня камісіі – **Наталля СЛІЗОЎСКАЯ**.

Участак пачаў работу ў 10 гадзін. На крэслах размясціліся назіральнікі, за сталом старшыня камісіі і яшчэ дзве жанчыны – сябры камісіі.

За 23 хвіліны ніводнага наведвальніка. Раптам ажыўленне – прыйшла бабулька з кіёчкам. Распісалася, прагаласавала. І зноў усё замерла...

Маё журналісцкае пасведчанне перапісалі, і, можа, па гэтай прычыне старшыня камісіі адразу папрасіла не размаўляць на палітычныя тэмы. "*Давайце лепш будзем дзяліцца рэцэптамі. Вось мая суседка такія варэнікі робіць на пару!..*" – сказала сп.Слізоўская.

Раптам дзверы адчыніліся, і пад гучны вокліч "Міжнародныя назіральнікі да вас!" у пакой зайшлі трое. У дваіх былі бэджы, з якіх вынікала, што назіральнікаў завуць **Ірына ПАЖЫДАЕВА** і **Юрый ДЗЯМ'ЯНЕНКА.** Іх суправаджаў "таварыш у цывільным".

Назіральнікі прыехалі з Расіі. Мужчына адразу сказаў, што яму тут усё падабаецца, і чамусьці дадаў, што кожнае выбарчае заканадаўства мае свае нацыянальныя асаблівасці. *"А ведаеце галоўную асаблівасць нашых выбараў?"* – спыталася я. Мужчына на секунду задумаўся: *"Ды я асабліва нічога не заўважыў..." "У нас назіральнікаў не дапускаюць да падліку галасоў"*, – працягваю размову. На дапамогу свайму калегу адразу прыйшла Ірына Пажыдаева: *"А навошта гэта?! Вы што, думаеце, што нехта будзе кагосьці падманваць і махляваць? Навошта назіральнікам глядзець? Яны ж толькі перашкаджаць рабоце будуць"*. Ледзь не спытала: "Чаго тады прыехалі?", але стрымалася. Тым больш што "таварыш" настойліва пацягнуў іх далей. Дыскутаваць асаблівай ахвоты не было, як і не было ахвоты знаходзіцца на тым ці іншым участку.

Між тым за чатыры гадзіны, што я правяла на ўчастку, прагаласавалі 19 чалавек. Гэта каля паўтара працэнта ад усіх выбаршчыкаў участка (іх у спісе 1312).

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДА ВЕДАМА

У асноўны дзень галасавання, 11 кастрычніка, выбарчыя ўчасткі адкрыюцца ў 8 гадзін раніцы і будуць працаваць да 20.00.

НУ І НУ!

# Тэрапеўт выпісвала фіктыўныя бюлетэні

*Судом Ленінскага раёна Мінска яна прыгаворана да трох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.*

Здзіўляе, як была выкрыта доктар.

Ва ўпраўленні па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкама расказалі, што да іх калег у Ленінскае РУУС Мінска з заявай пра тое, што 31-гадовы медработнік паліклінікі бярэ ўзнагароджанне за вырашэнне пытання аб выдачы фіктыўных лісткоў непрацаздольнасці, звярнуўся яе 34-гадовы пацыент, якому тая выпісвала фальшывыя бальнічныя.

Першы такі ліст непрацаздольнасці на пяць дзён мужчына атрымаў у студзені 2014 года. Тады гэта каштавала яму 200 тысяч рублёў.

У выніку аператыўных мерапрыемстваў высветлілася, што наступны дакумент ілжэхвораму спатрэбіўся ў жніўні. Кошт "паслуг" узрос да 300 тысяч рублёў. Тады мужчына працаваў слесарам на сталічным прадпрыемстве.



Зараз ён не працаўладкаваны.

Падчас аператыўнага эксперымента ў сакавіку 2015 года, пра які супрацоўніца паліклінікі не падазравала, з ёю ўдалося дамовіцца аб выдачы фіктыўнага бальнічнага за 400 тысяч рублёў.

Паводле слоў начальніка ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкама палкоўніка міліцыі Генадзя Казакевіча, падчас разбору былы тэрапеўт прызналася ў тым, што выпісвала падробленыя бальнічныя, узнагароджанне за якія заўсёды ўстанаўлівала па сваім меркаванні. Выдачай бальнічных лістоў за грашовае ўзнагароджанне жанчына займалася сістэматычна.

СІТУАЦЫЯ

# Улады ўспомнілі пра штрафнікоў

Сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ **Алесь ЧАХОЛЬСКІ** атрымаў запрашэнне прыйсці ў аддзел прымусовага выканання Фрунзенскага раёна. Прычым на ягоны адрас прыйшло адразу дзве позвы. Згодна з адной, яго яшчэ летась, 28 лістапада, суд Ленінскага раёна сталіцы пакараў штрафам у чатыры з паловай мільёны рублёў, а вось з другой позвы вынікае, што ў той жа дзень суд Першамайскага раёна аштрафаваў Чахольскага на 3 мільёны рублёў. Адкуль што ўзялося?..

Сам Алесь Чахольскі лічыць, што магчымай падставай мог стаць ягоны ўдзел на Дзяды ў акцыях ушанавання памяці ахвяр сталінскага рэжыму ў Курапатах і ў Лошыцы. Цікава, што справу аб выкананні рашэння судоў распачалі яшчэ... 5 лютага.

– *Мяркую, што ў дзяржавы бюджэт ужо зусім пусты,* – разважае спадар Чахольскі. – *Вось зараз суды ды розныя структуры атрымалі загад пільна пашукаць, з чаго можна было б атрымаць грошай. Але ў маім выпадку пратаколы не складаліся, я нічога не падпісваў, рашэнні судоў мне ніхто не дасылаў. Да таго ж, згодна з паперамі, суды адбыліся ў адзін дзень. То бок ніхто нават не паклапаціўся, каб прыдаць усяму гэтаму праўдападобны выгляд: ну сапраўды, як фізічна адзін чалавек можа адначасова апынуцца ў двух судах, якія знаходзяцца ў розных баках горада? Дарэчы, у такой сітуацыі апынуўся не я адзін. Некаторыя мае знаёмыя распавялі, што днямі атрымалі папярэджанні аб тэрміновай выплаце штрафаў за перавышэнне хуткасці, якія праляжалі пад сукном некалькі месяцаў.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

# Чатырнаццаць жанчын – за тры гадзіны

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

**16.05.** Старшыня камісіі – Аляксандр Пятровіч Пашык – выкладчык чарчэння і працы ў гэтай жа школе. Таксама ў пакоі два назіральнікі ("ад прафсаюзаў і ветэранскай арганізацыі") і два сябры камісіі.

**16.10.** Мне паведамляюць, што ў заявачным спісе на гэтым участку 1179 выбаршчыкаў. У першы дзень галасавання, 6 кастрычніка, прагаласаваў 71 чалавек.

**16.15.** Яшчэ адна жанчына прагаласавала. *"Ёй 72 гады, а яна ўсё яшчэ працуе ў бальніцы, у хірургічным аддзяленні"*, – паведамляюць мне сябры камісіі.

**16.25.** На ўчастку з'яўляюцца адразу дзве жанчыны, якія вырашылі прагаласаваць датэрмінова.

**16.27.** А зараз вырашыла аддаць свой голас і назіральнік ад ветэранскай арганізацыі. Як кажуць, сумяшчае прыемнае з карысным.

**16.29.** Жанчына, якая працуе ў школе тэхнічным работнікам, зазірнула. Прагаласавала. Жанчына дрэнна бачыць, таму ёй даюць нават лупу. *"Гэта ноў-хаў сёлетніх выбараў,* – тлумачаць мне. – *Лупа і трафарэт для невідушчых"*.

**16.40.** Яшчэ адна школьная супрацоўніца галасуе. А праз пяць хвілін прыходзіць жанчына сярэдніх гадоў, у якой *"11 кастрычніка ніяк не атрымліваецца"*.

**17.30.** Досыць доўга нікога не было на ўчастку. Зараз неведалася жанчына.

**17.45.** Дзясятая жанчына прагаласавала – юбілейная! Тым часам намеснік старшыні камісіі Галіна Графутка распавядае пра асноўны дзень выбараў. *"Будзе святочны канцэрт, буфет, шмат музыкі*, – кажа яна. – *"Сяброў" паставім, можа, хто захоча Колю Баскава"*.

**17.55.** Адзінаццатая галасуе, а праз дзесяць хвілін – яшчэ адна. Апошняя – Галіна Рыбчынская – кажа, што не прапускае ніводных выбараў.

**18.20–18.45.** Прагаласавалі апошнія дзве жанчыны. У выніку – чатырнаццаць за тры гадзіны. А за ўвесь дзень 7 кастрычніка, як стала вядома пазней, прагаласавалі 64 чалавекі (5,4% ад спісачнага складу). За два дні на гэтым выбарчым участку прагаласавалі 135 чалавек (11,45%).

ЭКСКУРС У МІНУЛАЕ

# Успомніце, Ніл Сымонавіч

*Паважаная рэдакцыя!*

*Я ведаю, што ў Вас вельмі добрыя і паважлівыя адносіны з народным паэтам Беларусі Нілам Сымонавічам Гілевічам. Давайце пашлём яму яшчэ адно віншаванне з нагоды нядаўняга дня народзінаў. Віншаванне ў выглядзе сяброўскіх замалёвак, зробленых падчас сумеснай працы ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання дэпутатам, архітэктарам Лявонціем Здaневічам.*

*Аркушы, датаваныя 1993-м і 1995 гадамі, мне думаецца, навядуць Ніла Сымонавіча на многія ўспаміны.*

**Зігмунд СЕЎРУК.**

**Ніл Сымонавіч Гілевіч на пасяджэнні камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, 1993 г.**

**Дэпутаты Н.С.Гілевіч і М.Ф.Карніевіч на пасяджэнні Вярхоўнага Савета.**

ПАМЯЦЬ

## Шаноўная рэдакцыя "Народнай Волі"!

Мінула 40 дзён з дня смерці маёй сяброўкі Веры Андрэеўны Чуйко. Чалавека выключнай душэўнай прыгажосці, яна ўклала вельмі многа старання і сіл у адраджэнне нашай дарагой Беларусі. Было б справядліва, каб пра гэтую светлую, надзвычай сціплую жанчыну ведала як магла болей беларусаў.

# Вера

Нядзеля 30 жніўня 2015 года стала для нас чорнай. У гэты дзень памерла Вера Андрэеўна Чуйко.

Вера... Дзе знайсці словы, каб выказаць наша гора і смутак?! Я вельмі шчаслівая, што на жыццёвым шляху сустрэла Веру. Усіх сяброў аб'ядноўвала пачуццё вялікай павагі да яе. У Веры былі крылы. Яе цікавіла літаральна ўсё. Яна нікога не баялася, была сумленнай, разумнай і адкрытай. Усё сваё жыццё прысвяціла змаганню за справядлівасць, за Беларусь.

Некалькі гадоў Вера працавала памочнікам сакратара народнага дэпутата БССР Зянона Станіслававіча Пазьняка. Праводзіла прыёмы грамадзян, разбірала заявы і скаргі, часта звярталася ў дзяржаўныя органы, каб дапамаглі ў вырашэнні складаных праблем. Мужная абаронца справядлівасці, Вера аб'ектыўна ацэньвала людзей, умела з імі працаваць. Кожнага чалавека заўсёды сустракала цёплай, прыязнай усмешкай, была добразычлівай, гатовай дапамагчы. Гэта быў чалавек, з якім хацелася раіцца. Для Веры не існавала дробязяў. У кожную справу яна ўкладвала ўсю душу. І імкнулася дапамагчы ў любым выпадку.

У Веры многія маглі б павучыцца, як працаваць з людзьмі. Жанчына высокай культуры, адметнай інтэлігентнасці, яна ніколі не ўступала ў спрэчкі з недастойнымі асобамі. У яе атачэнні не было звадак, сварак, інтрыг, хлусні. Вернасць і чалавечнасць Веры, вялікая ўдзячнасць нават за маленькія паслугі здзіўлялі многіх.

Высока ацэньваў дзейнасць Веры Васіль Быкаў. Ён добра ведаў яе актыўную і плённую дзейнасць у Беларускім Народным Фронце "Адраджэнне", яе ўдзел ва ўсіх палітычных акцыях, якія ладзіў Фронт. Успомніў аб гэтым у сваёй кнізе "Доўгая дарога дадому".

Гэтая цудоўная жанчына бязмежна любіла дзяцей. Вельмі чуйная, яна дапамагала і маральна, і матэрыяльна. Дабрыня Веры, душэўнасць уражвалі не толькі блізкіх, сяброў, але і малазнаёмых. Нават калі сама кепска пачувалася, заўсёды турбавалася за справы сяброў, імкнулася, як магла, дапамагчы ім.

Незвычайная трываласць і аптымізм Веры дапамаглі ёй стойка пераносіць цяжкую хваробу. За некалькі дзён да смерці яна сказала мне, што ганарыцца тым, што змагла здзейсніць за сваё жыццё.

Мы таксама ганарымся тым, што зрабіла Вера.

Вельмі цяжка, што з намі ўжо няма такой вернай і чалавечнай сяброўкі.

Любімая Вера, наша Вера, бывай!

Жыве Беларусь!, за якую так шчыра ты змагалася ўсё жыццё!

**З павагай – Фаіна РЫМША, архівіст.**

ШЧЫРА

# Я прамаргаў дзень народзінаў любімага паэта

"Народная Воля" павіншавала Ніла Сымонавіча Гілевіча з чарговым днём нараджэння. Хоць і са спазненнем, але і я выказваю найлепшыя пажаданні народнаму паэту Беларусі, зычу яму яшчэ многіх гадоў жыцця!

Адначасова хачу нагадаць чытачам "Народнай Волі", што 25 верасня споўнілася 102-я гадавіна з дня нараджэння Сяргея Іванавіча Грахоўскага. Ён таксама мой любімы паэт. Я рады быў бы, калі б у газеце з'явіўся яго верш "Мая адзіная".

**Міхась ДУБЕНЧУКОЎ.**

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## Мая адзіная

Зямля бацькоў, зямля дзядоў,
Табе дзве тысячы гадоў,
Ты захлыналася ў крыві,
Але жывеш і век жыві.
Таптaлі прыхадні цябе,
А ты мужнела ў барацьбе,
На галавешках і касцях
Зноў пачынала свой працяг,
Чужыя сплочвала даўгі.
І ад вайны, і да вайны
Раслі і гінулі сыны.
Ты пралівала рэкі слёз
І праклінала горкі лёс,
Гібела з рання да відна,
Бо ў свеце ты была адна...
Нарэшце вырваўся ў прасцяг
Наш бел-чырвона-белы сцяг.
Я ім заўсёды ганаруся,
Бо сын нязводнай Беларусі...
Ды ў свеце ўдарылі ў званы,
І стыне кроў ад навіны,
Трывогі збыту не даюць,
Бо зноў агулам прадаюць
І нас, і нашую зямлю.
Я Бога і людзей малю
Свавольству волю не даваць
І родны край пашкадаваць,
Бо не даруюць нам віны
Ні праўнукі, ні іх сыны.
Сумленне, розум чалавечы,
Збірайцеся ўсе на веча,
Каб не заплакаць нам аб страце
Па роднай і адзінай маці,
Каб сэрца не ўчарнела ў скрусе
Па Беларусі. Па Беларусі.

ПРАВА ЧЕЛОВЕКА

# Закон может только ограничить права, но не лишить их...

В редакцию "Народной Воли" снова обратился Алексей Линник, осужденный к пожизненному заключению. За 15 лет отбывания наказания у него накопилось много вопросов к судам и пенитенциарной системе. Вот одна из проблем, на которую он обращает внимание в своем письме.

*"При вынесении мне приговора 14 августа 2000 г. пожизненное заключение являлось самостоятельным видом наказания. Осужденные отбывали его в исправительно-трудовой колонии особого режима. Помимо других прав, они имели право на длительное свидание и, значит, могли потенциально вступить в брак, создать семью и стать отцами. Однако Уголовный кодекс 1999 года, вступивший в силу с 1 января 2001 г., ужесточил условия отбывания пожизненного заключения, в том числе и для тех лиц, в отношении которых приговор вступил в силу еще до 2001 года".*

В этой связи А.А.Линник обращает внимание на то, что нормы нового Уголовно-исполнительного кодекса, в отличие от старого Исправительно-трудового кодекса 1971 года, установили обязательное отбывание осужденными к пожизненному заключению первых 10 лет в тюрьме, а не в помещениях камерного типа. А ведь в тюремных условиях содержание более строгое, чем в колонии. Так, осужденные в тюрьмах не имеют права на длительные свидания. По мнению А.А.Линника, *"это нарушает не только части 1,2 ст.32 Конституции (право на семью и отцовство), но и ч.1 ст.23 Конституции, согласно которой закон может только ограничить права, но не лишить их".*

КОММЕНТАРИЙ ЮРИСТА

## Они, образно говоря, превращены в рабов безо всяких прав и защиты

Следует признать, что А.А.Линник времени даром не терял и досконально разобрался в нюансах нашего законодательства. Он прав в том, что новые нормы как уголовного, так и уголовно-исполнительного законодательства не должны, по общему правилу, иметь обратную силу и ухудшать положение лиц, в отношении которых применяются. Это требование прямо закрепляется в ст.67 Закона "О нормативных правовых актах Республики Беларусь".

Тем самым нормы новых Уголовного и Уголовно-процессуального кодексов не должны были ухудшать положение осужденных по приговору суда до 01.01.2001. В данном случае осужденный А.А.Линник должен был остаться в ИТК особого режима, а не переводиться в тюрьму.

Следует также согласиться и с другим утверждением А.А.Линника о том, что закон не должен лишать осужденных права на длительные свидания и тем самым лишать права на создание семьи и отцовство. В этой части Уголовно-исполнительный кодекс вступает в противоречие со ст.32 Конституции.

На мой взгляд, письмо А.А.Линника заставляет обсудить проблему о правовом статусе белорусских осужденных. Ведь они, образно говоря, превращены в рабов безо всяких прав и защиты. В этой связи предлагаю провести "круглый стол" с участием бывших заключенных, в том числе недавно освобожденных политзаключенных. Пора начать процесс реформирования нашей пенитенциарной системы по примеру соседних европейских стран.

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Будучыню Беларусі павінен вырашыць народ! На рэферэндуме

Што і казаць, апазіцыі як сур'ёзнай сілы ў Беларусі няма. Але ёсць людзі, якія разумеюць, што палітыка А.Лукашэнкі – гэта ганебнае прагінанне перад Расіяй. Фактычна наша краіна ўсё больш і больш набліжаецца да той мяжы, калі суверэнітэт будзе чыста сімвалічным. Як гэта, дарэчы, было пры савецкай уладзе.

Што рабіць? На мой погляд, не абысціся без правядзення рэферэндуму. На парадку дня стаіць столькі лёсавызначальных пытанняў, што чым хутчэй яны будуць разгледжаны на агульнанародным галасаванні, тым больш у Беларусі з'явіцца шанцаў на прагрэсіўнае развіццё. Але ж, мяркую, у бліжэйшы час А.Лукашэнка не праявіць імпэту ў ініцыіраванні плебісцыту. Такую ролю павінна ўзяць на сябе інтэлігенцыя. Менавіта яна з'яўляецца элітай грамадства. Каму, як не ёй, наканавана ратаваць родную Беларусь!

Чытаючы "Народную Волю", я неаднойчы звяртаў увагу на розныя ініцыятывы Рады беларускай інтэлігенцыі, якую ўзначальвае вядомы грамадскі дзеяч Уладзімір Колас. На жаль, не магу нічога сказаць пра канкрэтныя вынікі дзейнасці гэтай структуры. Калі яна не ператварылася ў віртуальную, то ёй я і раіў бы ўзяцца за арганізацыю рэферэндуму. Толькі так, каб усё рабілася ў адпаведнасці з заканадаўствам, каб у "Чырвоным доме" ці тая ж Ярмошына не маглі заявіць, што зарэгістраваць ініцыятыўную групу нельга, паколькі яна стваралася з парушэннем шэрагу прававых нормаў.

Скажаце: вунь некаторыя прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта краіны не змаглі сабраць у сваю падтрымку сто тысяч подпісаў, а як сабраць чатырыста пяцьдзясят тысяч? Калі Рада беларускай інтэлігенцыі звернецца па дапамогу да ўсіх людзей, якіх хвалюе лёс Беларусі, то, думаецца, такая задача будзе вырашана. Галоўнае – адказна паставіцца да справы.

Факт бясспрэчны – краіне, грамадству патрэбны рэферэндум. Вядома ж, ні А.Лукашэнка, ні яго чыноўнікі ў гэтым не зацікаўлены. А таму я прынцыпова звяртаюся да Рады беларускай інтэлігенцыі: вазьміцеся, сябры, за надзвычай важную справу. Будучыню Беларусі павінен вызначыць народ!

**Андрэй КАЗЛОЎСКІ, прыхільнік дэмакратычных перамен у Беларусі.**

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ...

# Недетские запросы



Все, кажется, понятно: родители ходят на работу, платят налоги, государство каждый год принимает Закон Республики Беларусь «О республиканском бюджете". Все говорят, что мы стали жить лучше, но вот почему в бюджете нет денег? Возникает вопрос: «Куда уходят налоги?»

Первый день в садике начинается с вручения родителям списка (перечня) предметов, необходимых для пребывания ребенка в саду, и оказания родителями безвозмездной помощи саду в пределах двух базовых величин (360.000 руб.). У каждого садика взнос и перечень предметов разный. В перечне есть очень интересные предметы: средство для мытья унитазов, мытья посуды, чистящее средство, жидкость для мытья полов, хозяйственное мыло, мешки для мусора, туалетная бумага, губка для мытья посуды и т.д. В некоторых садах список доходит до 31 пункта. А представляете, что 20–25 человек в группе принесут все это!!! «Спонсорская помощь» одного человека потянула примерно на 800.000 белорусских рублей.

Уж очень захотелось узнать у госслужащих: это в каком законодательном документе прописаны такие «вольности»? Позвонил в администрацию Московского района г.Бреста, где мне ответили, что у бюджета нет денег; законодательного документа нет, но садики могут составлять такие «перечни предметов». Значит, можно сделать вывод, что государственным службам о происходящем известно.

Но возникает много вопросов: можно ли использовать чистящие средства разных производителей в дошкольных учреждениях (а ведь родители покупают кому что вздумается), существуют ли какие-то нормы на сей счет? Почему родители должны заниматься снабжением детских дошкольных учреждений, тратить время и деньги, если они уже заплатили налоги (подоходный налог) и ежемесячно оплачивают услуги сада? Родители молчат и делают все, что им говорят, потому что устроить ребенка в сад не всегда легко. Не хочется, конечно, чтобы к твоему ребенку в садике относились предвзято, поэтому предпочитают не скандалить. Однако поборы учащаются, становятся все больше и больше, в школах все вообще поставлено «по-крупному» – телевизоры, двери, ремонт...

Поэтому возвращаюсь к тому, с чего начинал: «Куда уходят наши налоги, если на элементарные вещи для системы образования денег не хватает?»

**Петр ИВАНЕНКО.**

*Брест.*

Для занятий:
1. Альбом для рисования 40 листов
2. Кисточки 2: толстая, средняя
3. Фломастеры 6 цветов
4. Баночка-непроливайка
5. Набор цветного картона А4, цв. бумаги
6. Цветные карандаши (желательно Марей- они мягкие, хорошо затачиваются)
7. Краска только гуашь 6 цветов
8. Спортивная форма (майка, шорты, чешки, носочки)
9. Пластилин восковой, только не польский
10. Доска для лепки
11. Папка на кнопке А4(для рисунков)
12. Папка-скоросшиватель пластиковая
13. мяч
14. песочный набор

1. туалетная бумага 2 рул.
2. салфетки бумажные 2 п.
3. расчёска без острых концов (не кукольная)
4. платки носовые обязательно!
5. мешки для мусора
6. вешалки на каждой одежде
7. чист. средство для раковин
8. „Белизна"

ШКОЛЬНЫ ЎРОК

# Ёсць беларускія варыянты

Падчас гутарак часта чуеш розныя прымаўкі. Але ў асноўным на рускай мове. Хоць амаль кожная з іх мае беларускі адпаведнік.

Па-руску, напрыклад, гучыць так: "Черного кобеля не отмоешь добела". А беларускамоўных варыянтаў гэтай прымаўкі можа быць аж чатыры. Вось яны:

Які чорт да лазні, такі і пасля лазні.

Варона колькі ні мыецца, усё адно чорная.

Паможа вароне мыла, як мерцвяку кадзіла.

Крумкачу і мыла не дапаможа.

**Юльяна СІДАРЭНКА.**

ВОПРОС–ОТВЕТ

# Обсуждение начинается 12 октября

***Слышала, что якобы минчан приглашают на общественное обсуждение откорректированного Генерального плана Минска. А где это будет проходить?***

**Г.Г.ЯРОШЕВИЧ.**

Выставка экспозиционных материалов Генплана разместится в УП «Минскградо» по адресу: улица Комсомольская, 8, кабинет 204. Для посетителей доступ туда будет открыт с 12 октября по 5 ноября: в будние дни с 14.00 до 18.00, а в субботу и воскресенье с 10.00 до 15.00.

– *На выставке будут представлены схемы развития жилых, производственных, общественных и ландшафтных территорий города, а также текстовые материалы основных положений Генерального плана,* – рассказал агентству «Минск-Новости» главный архитектор УП «Минскградо» **Александр Акентьев.** – *Наши сотрудники, разработчики нового документа, будут давать пояснения гражданам, отвечать на вопросы посетителей. Подобное практиковалось и в 2009 году, когда проходило общественное обсуждение предыдущей корректуры Генплана.*

Кстати, всех минчан, желающих ознакомиться с Генпланом, на входе в УП «Минскградо» зарегистрируют (запишут фамилию, имя, отчество и адрес), паспорт при этом не требуется. Как пояснил Александр Акентьев, такая процедура объясняется особым режимом работы предприятия, но горожан это не должно смущать. Свои отзывы, предложения и замечания по Генплану минчане смогут оставить в специальном журнале, который будет находиться в кабинете 204 УП «Минскградо».

ЁСЦЬ ІДЭЯ!

# Як вывесці фальсіфікатараў выбараў на чыстую ваду

Шмат гаворыцца пра магчымыя фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Але ніхто не прапануе варыянты, якім чынам можна выкрыць тых, хто пойдзе на гэты злачынны крок. У мяне ж ёсць рашэнне праблемы.

Ідзе датэрміновае галасаванне. Апазіцыя згуртоўваецца і ў апошнія ночы перад асноўным днём выбараў бярэ ў аблогу шэраг выбарчых участкаў. Па законе ў гэты час сутак, акрамя ахоўнікаў, у памяшканнях ніхто не павінен прысутнічаць. І не заходзіць. Такім чынам, у патэнцыяльных фальсіфікатараў не будзе магчымасці замяніць урны з укідам сфабрыкаваных бюлетэняў. А значыць, лічбы, якія пры падліку галасоў назавуць камісіі, будуць рэальныя.

А што далей? А далей гэтыя рэальныя лічбы трэба будзе параўнаць з лічбамі, якія абвесцяць камісіі на тых выбарчых участках, якія апазіцыя не брала ў аблогу. Калі разыходжанні акажуцца вялікімі – відавочны факт фальсіфікацыі. Вось тады і можна будзе ставіць пытанне аб нелегітымнасці выбараў.

**Марат КАЗУБОЎСКІ, патрыёт Радзімы.**

## Навошта чыноўнікам вадзіцелі?

Востра стаіць пытанне аб эканоміі дзяржаўных сродкаў. І я ведаю, як гэтага дасягнуць.

Скажыце, навошта за тымі ж раённымі і абласнымі вертыкальшчыкамі, начальнікамі розных узроўняў замацоўваць службовыя аўтамабілі з вадзіцелямі? Няхай сабе пакінулі б такую прывілею за старшынямі рай- і аблвыканкамаў. А што тычыцца іх намеснікаў, усіх астатніх чыноўнікаў, якія сёння маюць персанальныя аўто з вадзіцелямі, дык, калі б мая воля, я машыны ім пакінула б, але без шафёраў. Упэўнена, яны не сляпыя і не глухія, усе маюць вадзіцельскія пасведчанні – вось няхай самі і рулююць. Заправіць машыну – не праблема, як і адрамантаваць. А калі б усе чыноўнікі самі селі за руль – якая велізарная была б эканомія грошай!

**Вераніка СЯМАШКА, бібліятэкарка.**

